Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства
«Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

14 (574) 7 красавіка 2011 года

Кошт свабодны.

Ïîëàöê³ ðà¸í

# Àäøóêàë³ ñâàþ í³øó

■ Станіслаў Раманчук

**Напярэдадні веснавой сяўбы гарачая пара не толькі ў працаўнікоў гаспадарак, але і ў іх пастаянных партнёраў.**

У вельмі напружаным рэжыме працаваў у сакавіку былы аўтарамонтны завод у Полацку, цяпер ААТ "Праммашрамонт". Да пачатку красавіка калектыву належыла вырабіць 100 навясных культыватараў толькі для адных сельгаспрадпрыемстваў Віцебскай вобласці. У садружнасці з нямецкай фірмай завадчане адправілі першую партыю раскідвальнікаў мінеральных угнаенняў, аналагаў адпаведных нямецкіх агрэгатаў на новы рынак збыту ў далёкую Венесуэлу. Перад гэтым палачанам удалося выйграць адкрыты рэспубліканскі тэндар, абышоўшы з дзясятак іншых вытворцаў. Дарэчы, раскідвальнікі ўгнаенняў РДУ – зараз гонар прадпрыемства, дзе іх сталі выпускаць розных аб'ёмаў і ўмяшчальнасці. Пробную партыю такса ма заказалі аграрыі расійскай жытніцы з Краснадарскага краю. У мінулым тут быў адзін з буйнейшых спецыялізаваных заводаў на прасторах СССР. Перажылі палачане затым цяжкі перыяд крызісу, але з яго дастойна выйшлі. Заказаў у завадчан хапае, паколькі яны асвоілі выпуск кормараздатчыкаў для ферм, пачалі выпускаць і бульбакапалкі, зернесушыльныя комплексы па нямецкай тэхналогіі і шэраг іншых тавараў народнага спажывання.

Ãëûáîöê³ ðà¸í

# Ïà çàñëóãàõ ëåïøûÿ

■ Чэслаў Якубовіч

**У наш дынамічны час што можа быць лепшае, як з гарадскога тлуму вырвацца ў цішыню ляснога масіва, надыхацца там чысцюткім паветрам і цудоўна адпачыць на ўлонні маляўнічай прыроды.**

Зараз гасцей Прыдзвіння гасцінна прымаюць ужо больш трохсот аграсядзіб, а лепшых іх гаспадароў днямі зноў запрасілі на прыём у аблвыканкам. Там былі падведзены вынікі і ўзнагароджаны пераможцы 2-га абласнога конкурса "Лепшая аграсядзіба 2010 года". У адной з намінацый "Зялёная сядзіба" перамагла аграгаспадарка "Родны кут" Юліі Бука з Глыбоцкага раёна. Яе гаспадыня прымае гасцей ужо 6 гадоў, у вёсцы Валодзькава выкупіла нават некалькі хат, каб размясціць сваіх шматлікіх наведвальнікаў. У гэтай прыгожай мясцовасці ладзяцца мастацкія плэнэры і для творцаў аграсядзіба сапраўдны сялянскі адпачынак і побыт. Праўда, прыйшлося гэтай актыўнай жанчыне зрабіць у дамах неабходны рамонт. Зразумела, спатрэбілася ўкласці шмат цяжкай фізічнай працы і дабіцца такой каштоўнасці, як традыцыйны нацыянальны каларыт. Для беларускамоўных гасцей на сядзібе падчас побыту, дарэчы, устаноўлены зніжкі. А ў выніку атрымоўваюцца выдатныя творы. Карціны з выявамі Глыбоччыны выстаўляліся потым у холах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Юлія Бука і іншыя лаўрэаты конкурсу робяць выдатную справу, прапагандуючы наш беларускі лад жыцця продкаў.

Ïîëàöê³ ðà¸í

# Ñàô³éñê³ ñàáîð - áóäçå öàëêàì ðýêàíñòðóÿâàíû

■ Анастасія Меражкоўская

**Рэканструкцыя Полацкай Сафіі, пачатая летась і разлічаная на тры гады, агаліла значна больш праблем, чым чакалася.**

Пасля рамонту даху, калі будаўнікам прыйшлося паднімаць апорныя бэлькі, вельмі моцна змянілася акустыка сабора - і змянілася не ў лепшы бок. Больш таго, пагаршэнне акустыкі ідзе па нарастаючай.

Кіраўніцтва Полацкага музея-запаведніка звярнулася ў вышэйстаячыя арганізацыі з просьбай "выратаваць самы вядомы храм Беларусі". Пасля дэталёвага даследавання, праведзенага навукоўцамі, было прынята рашэнне не проста рэканструяваць храм, а вярнуць яму першапачатковае аблічча.

Пасля перабудовы храм стане такім, якім яго задумаў Усяслаў Чарадзей, якім яго бачыла Еўфрасіння Полацкая, палачане і госці горада да пажару 1447 года. Адзінае, што не памяняецца, дык гэта арыентацыя па баках свету, інакш, па словах навукоўцаў, прыйшлося б яго разбурыць цалкам з падмуркам.

Пры вяртанні храму першапачатковага гістарычнага аблічча будаўнікі мяркуюць выкарыстоўваць досвед архітэктара Яна Крыштофа Глаубіца, які аднаўляў храм пасля таго, як яго разбурыла войска Пятра I.

Фінансаванне будзе весціся з некалькіх крыніц: рэспубліканскі і абласны бюджэты, спонсарскія сродкі, якія плануецца сабраць з бізнесменаў Полацка і Наваполацка. Акрамя гэтага, магчыма ўдзел і замежнага фундатара, які плануе ўкласці грошы ў турыстычны бізнэс у Полацку. Аднак яго імя пакуль не называецца.



# Лічба нумара

**48%** - такой будзе доля Мінскага аўтамабільнага завода, як пацвердзіў яго гендырэктар Аляксандр Бароўскі, пасля аб'яднання аднаго з брэндаў беларускай эканомікі з расійскім КамАЗам. Ужо відавочна, што гэта камерцыйная здзелка па стварэнню новага аўтамабільнага холдынга адбудзецца менавіта па варыянту, прапанаванаму суседняй Расіяй. Першапачаткова беларуская кіраўніцтва меркавала атрымаць ад продажу акцый МАЗа валюту, але цяперашнія падзеі і вытворчая сітуацыя на сталічным прадпрыемстве памянялі гэтыя планы.

Не сакрэт, што і цяпер няпростае становішча, як і ў перыяд нядаўняга сусветнага фінансавага крызісу ў аднаго з флагманаў беларускай эканомікі. Ранейшая арыентацыя пераважна на расійскі рынак вылезла для яго бокам, і летась прыйшлося адтуль звольніць альбо скараціць амаль 5 тысяч работнікаў. У мінулым годзе беларусы выпусцілі з канвеера толькі 13,2 тысяч грузавых аўтамабіляў. Для параўнання, расійскі прамы канкурэнт КамАЗ у Набярэжных Чалнах вырабіў і прадаў 34 тысячы аўтамабіляў не горшай якасці, чым нашы.

Далейшыя перспектывы таксама для беларускіх вытворцаў не абяцалі росквіту, хутчэй наадварот. У бліжэйшы час Расія павінна стаць паўнацэнным членам Сусветнай Гандлёвай арганізацыі, куды даўно імкнулася. Такім чынам, не стане бар'ераў для паставак на вялізны расійскі рынак аналагічнай лепшай заходняй тэхнікі. Нам жа яшчэ трэба дабівацца еўрапейскай якасці машын і аўтобусаў. Нарэшце яшчэ адзін прамысловы монстр, Кітай, завяршае праект па запуску ў сябе адразу 6 заводаў па вытворчасці грузавых аўтамабіляў.

Да таго ж у расіян меўся надзейны партнёр у гэтым бізнэсе – нямецкі аўтагігант "Mersedes", які валодае 10 % акцый расійскага аўтазавода. У беларусаў нешта апошнім часам не атрымоўваецца цесна ўзаемадзейнічаць з вядомымі заходнімі брэндамі, адносіны з расійскімі прыватнымі гігантамі таксама не партнёрскія. Як вынік, кіраўніцтва МАЗа зараз прызнае, што для яго вытворчасці не хапае новых сучасных тэхналогій. Але ж па-ранейшаму хваліліся на рэгулярных прэс-канферэнцыях для розных расійскіх СМІ, што быццам даціруем яшчэ рускіх людзей, прадаючы туды танна сваю прадукцыю.

Пры адсутнасці кваліфікаванай ацэнкі гэты аўтагігант беларускі бок ацаніў коштам у 2,5 млрд. USD, крыху нават даражэй Камскага аўтазавода. На гэты конт у расіян ёсць прынцыповыя сумненні. У рэшце рэшт, прыйшлося пагадзіцца на аб'яднанне нават без продажу беларускіх акцый. Наша дзяржава не заробіць зусім ні долара так неабходных зараз валютных сродкаў на папаўненне рэзерваў і на падтрымку беларускага рубля. А вось расіяне ідуць далей, і праз некалькі гадоў гатовы перадаць немцам да 40 % акцый свайго КамАЗа.

Як падаецца, і ў далейшым прыйдзецца нам гуляць па правілах, якія будзе дыктаваць беларускаму кіраўніцтву Крэмль. У рамках Мытнага саюза проста нельга інакш, паколькі асноўным пакупніком прадукцыі айчыннага машынабудавання і прадукцыі МАЗа была і застанецца Расія. У 2009 годзе ў разгар крызісу Мінскі аўтазавод ледзь не лязнуўся, калі туды знізіліся аб'ёмы адгрузкі грузавікоў на 84 %. Вырабленых машын не было тады куды дзяваць і іх практычна раздалі калгасам, іншым унутраным спажыўцам у лізінг без аплаты. Каб завод далей працаваў, з дзяржбюджэту яму аказалі падтрымку не на адну сотню мільёнаў долараў.

А вось летась адгрузкі беларускіх грузавікоў у РФ выраслі ў параўнанні з 2009 годам у 3,5 разы, доля усіх экспартных паставак туды склала 38 %. Такім чынам, у складзе гэтага холдынга мазаўцам горш не будзе. Расіяне справядліва разлічылі, што ў Мінску ёсць нядрэнны чалавечы капітал, свая канструктарская школа, і сёлета беларусы укладуць каля 50 млн. долараў толькі на паляпшэнне якасці сваёй тэхнікі. А вось валюта зараз кроў з носу так патрэбна Беларусі, каб выжыць, і ўжо продажам за 1 млрд. USD пакета акцый МТС не абыйсціся. На чарзе і іншыя непапулярныя рашэнні ва ўмовах валютнага хаосу.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîêê³ ì

www.rp5ru

| | чацвер 07.04.11 | | | | пятн. 08.04.11 | | | | сб. 09.04.11 | | | | нядз. 10.04.11 | | | | пн.11.04. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -3 | -1 | +4 | 0 | -1 | +2 | +9 | +8 | +7 | +6 | +10 | +6 | +5 | +6 | +12 | +9 | +7 | +8 | +14 |
| Ціск, мм | 752 | 754 | 755 | 755 | 754 | 751 | 748 | 746 | 746 | 748 | 749 | 750 | 750 | 750 | 750 | 749 | 749 | 748 | 746 |
| Вільготнасць, % | 79 | 56 | 39 | 68 | 79 | 85 | 76 | 94 | 97 | 97 | 86 | 95 | 93 | 91 | 75 | 85 | 91 | 84 | 53 |
| Вецер м/сек | В 3 | Ю-В 4 | Ю-В 4 | Ю-В 4 | Ю-В 5 | Ю-В 6 | Ю 6 | Ю-З 5 | З 3 | З 3 | З 3 | Ю-З 2 | Ю-З 4 | Ю-З 4 | Ю-З 6 | Ю-З 4 | Ю 4 | Ю 5 | Ю 8 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**У Беларусі вырашылі павялічыць вясной пасевы грэчкі, каб атрымаць 25 тысяч тон грэчневых круп і задаволіць унутраны попыт на яе. Усяго ж вяскоўцам сёлета належыць пасеяць яравых культур на плошчы больш за 2,4 млн. гектараў. Стан азімых культур пакуль здавальняючы, толькі на поўдні краіны іх страты склалі да 10 %. Кіраўніцтва краіны пайшло на далейшую канфрантацыю з ЕС і ЗША, у адказ на санкцыі быў забаронены ўезд у РБ шэрагу вядомых асоб, візіты еўрапейскіх і амерыканскіх дэлегацый будуць рэзка абмежаваны. Прадоўжыўся рост цэн на прадукты, ржаны хлеб, падаражэў праезд у прыгарадных цягніках, электрычках.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Японія.** У выніку землятрусу і цунамі колькасць загінуўшых і прапаўшых без звестак пастаянна расце і перавысіла 27 тысяч чалавек, лік ахвяр можа прыбавіцца ад радыяцыі.

**Польшча.** Палякі, як заявіў глава МЗС краіны Р. Сікорскі, акажуць дапамогу беларусам, калі яны аберуць шлях перамен да дэмакратыі, рэформ і супрацоўніцтва з Еўропай.

**ЗША.** Карпарацыя "Боінг" правяла паспяховыя выпрабаванні новага самалёта-гіганта "Боінг-747-8" умяшчальнасцю 467 пасажыраў, лайнер лятае на вышыні болей 6 км.

**Бельгія.** Прэзідэнт Еўракамісіі Ж. Барозу пагадзіўся прыехаць у Кіеў на міжнародную канферэнцыю па 25-годдзю чарнобыльскай катастрофы пры адсутнасці на ёй кіраўніка РБ.

**Германія.** Канферэнцыя каталіцкіх біскупаў краіны запатрабавала ад урада адмовіцца ад атамнай энергетыкі, пасля аварыі ў Японіі немцы ўвялі 3-месячны мараторый на АЭС.

**Венесуэла.** Прэзідэнт Уга Чавес загадаў пасля катастрофы на АЭС у Японіі замарозіць у краіне ядзерныя праграмы, хоць раней заключыў дагавор з РФ аб узвядзенні тут АЭС.

**Кыргыстан.** Кіраўнік урада Алмазбек Атамбаеў заявіў, што яго краіна далучыцца да Мытнага саюза, а потым і да Адзінай эканамічнай прасторы з РФ, РБ, Казахстанам.

**Узбекістан.** На тэрыторыі краіны і суседніх Кіргізіі,Таджыкістана і Туркменіі атрымаў права дзейнічаць спецназ войск ЗША для правядзення контрапераацый супраць ісламістаў.

**Расія.** Кіраўніцтва аўтазавода КамАЗ выказала зацікаўленасць ва ўключэнні ў склад сумеснага холдынга не толькі МАЗа, але і Мінскага завода калёсных цягачоў.

**ЗША.** Колькасць амерыканскіх дзяцей ва ўзросце да 5 гадоў, якія хоць бы раз у тыдзень карыстаюцца самастойна камп'ютарам і сеткамі Інтэрнэту, дасягнула ўжо 80 %.

**Польшча.** Польскі ўрад выдзеліў дадаткова яшчэ 210 стыпендый для прыёму адлічаных з беларускіх ВНУ студэнтаў і ўпершыню для рэпрэсіраваных аспірантаў і выкладчыкаў.

**Йемен.** У сувязі з гібеллю людзей, рэзкім абвастрэннем абстаноўкі ў краіне на месяц увялі надзвычайнае становішча, увялі цэнзуру СМІ і прыпынілі дзеянне Канстытуцыі.

**Украіна.** У адной з друкарань краіны выйшаў у свет раман М. Шолахава "Ціхі Дон" упершыню без цэнзуры па рукапісу пісьменніка, тэкст твора рыхтавала старэйшая дачка.

**Швейцарыя.** У Міжнародную федэрацыю хакея паступіў зварот Сената ЗША з заклікам забраць у Беларусі правядзенне ў 2014 г. чэмпіянату свету, калі не вызваляць палітвязняў.

**ЗША.** Галівуд развітаўся з адной з самых знакамітых актрыс свету, ураджэнкай Лондана Элізабет Тэйлар (2 "Оскары"), ёй было 79 гадоў, а лепшай яе роллю стала "Клеапатра".

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Акрамя ажыятажнага попыту на $ і EUR у краіне, як пацвердзілі ў Нацбанку РБ, амаль у 2,3 разы выраслі продажы залатых мерных зліткаў у параўнанні з 2010 годам.

**Салігорск.** Па дадзеных спецыялістаў, запасаў разведаных калійных солей хопіць для ААТ "Беларуськалій" яшчэ мінімум на 40 гадоў працы, цяпер іх здабыча 30-35 млн. тон у год.

**Гродна.** Пракуратура пачала высвятляць матывы самагубства афіцэра, начальніка абласнога ўпраўлення дэпартамента аховы МУС Беларусі, якога знайшлі павешаным.

**Мінск.** На рэалізацыю Дзяржпраграмы адраджэння вёскі ў Беларусі патрацілі 27 трлн. рублёў, аднак засталіся вялізарныя даўгі калгасаў, нізкія рэнтабельнасць і заробкі сялян.

**Рэчыца.** На мецізным заводзе запусцілі буйнейшы ў РБ сучасны цэх гарачага ацынкоўвання труб і буйнагабарытных металаканструкцый з абаронай іх ад карозіі.

**Нясвіж.** Агракамбінат "Сноў" за 5 млрд. рублёў узвёў у сябе адну з самых сучасных у РБ урачэбных амбулаторый з УЗІ-апаратам, стаматалагічнай тэхнікай, ліфтам для хворых.

**Магілёў.** У адкрытай летась SOS-вёсцы дагэтуль пустуюць 6 з 13 катэджаў для дзяцей-сірот, бо цяжка знайсці мам, жадаючых выхоўваць і даглядаць па 7-10 малышоў.

**Столін.** Мясцоваму хлопчыку ва ўзросце 1,5 года паспяхова зрабілі ў Мінску ўнікальную аперацыю па выпраўленню дэфекта страўніка, раней ён праглынуў батарэйку і спаліў страўнік.

**Пухавічы.** У Мінскі абласны суд з касацыйнай скаргай звярнулася звольненая з працы з-за "палітыкі" настаўніца гісторыі Талькаўскай СШ Н. Ільініч, каб ёй вярнулі пасаду ў школе.

**Лагойск.** На мясцовы бюджэт пасля перадачы з Мінкультуры РБ грузам легла ўтрыманне мемарыяльнага комплекса "Хатынь", сюды дагэтуль не ходзяць рэйсавыя аўтобусы.

**Мінск.** На працягу года нямецкая кампанія Oettinqer на вытворчых лініях сталічнага піўзавода "Крыніца" вырашыла пробна разліваць толькі адзін гатунак свайго піва.

**Пінск.** Зноў пагоршыўся стан здароўя першага кардынала ў гісторыі Беларусі 96-гадовага Казіміра Свёнтка, яму зрабілі паўторную аперацыю пасля пераломы шыйкі бядра.

**Магілёў.** Міліцыя пачала расследваць крымінальную справу супраць дацэнта мясцовага дзяржуніверсітэта харчавання, які браў быццам ад групы студэнтаў хабар да 2 тыс. $ у год.

**Мінск.** У чэмпіянаце РБ па хакеі ўвялі абмежаванні па ўзросту ігракоў да 28 гадоў, допуск суддзяў з замежжа на плей-оф, месячны фонд зарплат каманд знізілі са 100 да 75 тыс. $.

**Астравец.** На мяжы з Літвой на пераходзе "Катлоўка" мытнікі затрымалі 100 кніг новага каталога "Прэс-фота Беларусі 2010" з-за серыі здымкаў разгону дэманстрацый у Мінску.

## Óíóòðàíàÿ àçäîáà æûëëÿ, ÿêîå áóäóåööà ¢ Áåëàðóñ³ ïà ëüãîòíûõ êðýäûòàõ, áóäçå àæûööÿ¢ëÿööà ïà æàäàíí³ ãðàìàäçÿí



■ Марына Носава, БелаПАН

**У Беларусі жылыя дамы, што будуюцца для грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, могуць прымацца ў эксплуатацыю без абавязковай унутранай аздобы. Такое рашэнне прынята пастановай Саўміна № 352 ад 22 сакавіка, якой унесены змяненні ў палажэнне аб парадку прыёмкі аб'ектаў у эксплуатацыю.**

Як паведаміла прэс-служба ўрада, у адпаведнасці з дакументам, жылыя дамы (часткі кватэр у іх) жыллёва-будаўнічых кааператываў для грамадзян, якія знаходзяцца на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў (як і жылыя дамы, што будуюцца за кошт пазабюджэтных сродкаў і крэдытаў банкаў), могуць прымацца ў эксплуатацыю без выканання ў поўным аб'ёме падрыхтоўчых работ пад аздобу сцен і столяў (апрача тынкоўкі).

Таксама яны могуць прымацца без правядзення работ па ўнутранай аздобе памяшканняў (наклейка шпалераў, фарбаванне, абліцоўка), без пакрыцця падлогі (апрача зробленых з дошак), без убудаванай мэблі, без устаноўкі дзвярных блокаў у міжпакаёвых перагародках, сантэхнічных прыбораў і абсталявання (апрача ўнітазаў, прыбораў уліку вады і газу), электрычных пліт.

Жылыя дамы ў сельскай мясцовасці, апрача таго, могуць прымацца без выканання работ па ўстройстве гаспадарчых пабудоў, пакрыццяў праездаў і дарожак, агароджаў і азелянення. Гэтыя змяненні правамоцныя пры наяўнасці пісьмовай згоды заказчыка (інвестара), жыльцоў і ўнясенні адпаведных змяненняў у праектна-каштарысную дакументацыю і дагавор будаўнічага падраду. Пастанова № 352 набірае моц пасля афіцыйнага апублікавання і распаўсюджвае сваё дзеянне на адносіны, што ўзніклі з 1 студзеня 2011 года.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Лепель.** Бярэзінскі біясферны запаведнік атрымаў дыплом Рамсарскай канвенцыі аб значнасці і значэнні яго водна-балотных угоддзяў і птушак у сусветным маштабе.

**Віцебск.** Ужо з красавіка праз Інтэрнэт можна набываць білеты на асноўныя канцэрты і мерапрыемствы XX юбілейнага фестываля мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску".

**Паставы.** Другую па ліку ў раёне сучасную малочнатаварную ферму з даярамі-робатамі пачалі ўзводзіць у адной з лепшых гаспадарак краю "Навасёлкі-Лучай", яе кошт 30 млрд.

**Глыбокае.** У вёсцы Удзела ААТ "За Радзіму" пачне будаваць новую ферму, сёлета тут запусцяць сучасны зернесушыльны комплекс, выручка гаспадаркі летась склала 6,2 млрд.руб.

**Віцебск.** Адразу ў 8 гарадах вобласці працавалі перасоўныя пульмаскаяны, за сродкі Глабальнага фонду ААН бясплатна праводзілі флюараграфічнае абследванне жадаючых.

**Лепель.** У суд паступіла справа на рыбакоў рыбгаспадаркі мясцовага ПМС, якія падчас дзеючай забароны на лоўлю шчупака вылавілі адразу 9 вялікіх такіх рыб з ікрой.

**Талачын.** У вёсцы Ваўковічы пахавалі двух маленькіх дзетак ва ўзросце 4 і 2-х гадоў, загінуўшых на пажары дома, калі маці была на рабоце, бацька нарыхтоўваў дровы ў лесе.

**Новалукомль.** У Палацы культуры энергетыкаў запрацаваў новы кіназал сучаснага фармату 3D на 40 месц для гледачоў, такую ж залу збіраюцца адкрыць і ў Паставах.

**Руба.** Восенню праз 2 гады тут, у прыгарадзе абласнога цэнтра, здадуць у эксплуатацыю яшчэ адну 5-павярхоўку, аднак у чарзе на узвядзенне жылля застануцца яшчэ 105 чалавек.

**Глыбокае.** За мінулыя 5 гадоў у раёне стварылі 15 аграгарадкоў, аднак з-за недахопу грошай летась не закончылі будаўніцтва клуба вёскі Чарневічы, шэраг іншых аб'ектаў.

**Наваполацк.** Імклівa расце ў горадзе колькасць карпаратыўных кліентаў кампаніі сотавай сувязі МТС, асабліва на прадпрыемствах "Нафтан" і "Палімір", каля 20 тыс. абанентаў.

**Браслаў.** На пункце пропуску "Урбаны" мытнікі затрымалі самую вялікую сёлета партыю кантрабандных цыгарэт, болей 10 млн. пачак у грузавіку Рэно, з Эстоніі.

**Полацк.** За пару тыдняў да старту ў чэмпіянаце РБ па футболе (1-я ліга) у ФК "Полацк" засталіся вялікія фінансавыя праблемы, клуб не пагасіў даўгі перад іграмамі, трэнерамі.

**Мёры.** З тэлевізарам за перамогу ў конкурсе юных выканаўцаў эстраднай песні "Халі-Хало" вярнулася дамоў з Наваполацка Насця Філіпава, ён сабраў 24 гарады РБ і Украіны.

**Орша.** У вагоне цягніка з Ніцы на Маскву нарад міліцыі затрымаў 37-гадовага п'янага беспрацоўнага з Віцебска, які накінуўся і параніў нажом 30-гадовага пасажыра з Украіны.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Кастусь Шыталь

# У Глыбокім моладзь правяла серыю флэшмобаў

**Флэшмоб – гэта, як піша Вікіпедыя – загадзя спланаваная масавая акцыя, падчас якой вялікая колькасць удзельнікаў раптам з'яўляецца ў грамадскім месцы. Яны выконваюць нейкія загадзя запланаваныя дзеянні, а потым адначасова разыходзяцца. З англійскай мовы “флэшмоб” перакладаецца як “успышка натоўпу”.**



У вялікіх гарадах Беларусі флэшмобы сталі праводзіцца ўжо некалькі год таму. Нядаўна гэтая забава дайшла і да нашага рэгіёна. Першы флэшмоб у Глыбокім адбыўся мінулым летам, а ў сакавіку такія акцыі прайшлі ў Вілейцы і Докшыцах.

Першы вясновы флэшмоб у Глыбокім анансаваўся ў сацыяльных сетках Інтэрнэту. 4 красавіка а 14-й гадзіне арганізатары запрашалі прыйсці на Цэнтральную плошчу, каб правесці акцыю салідарнасці з народам Японіі, пацярпелым ад землятрусу.

У вызначаны час каля ўваходу ў гандлёвы цэнтр «Арбіта» сабралася дзясяткі два маладзёнаў. Былі раздадзеныя маскі з выявай японскага сцяга і ўлёткі з нумарам дабрачыннага рахунку, на які можна пералічыць сродкі для пацярпелых ад стыхіі.

Улёткаў было няшмат, раздалі іх хутка. Першая акцыя, як і належыць флэшмобу, працягвалася некалькі хвілінаў.

Маладзёнам, якія сабраліся на акцыю, гэтага падалося мала – і маладзёны зладзілі серыю флэшмобаў, якая цягнулася цэлую гадзіну, ды выклікалі ўвагу і здзіўленне гараджанаў, якія праходзілі ці праязджалі па цэнтры Глыбокага.

Другі флэшмоб з серыі прайшоў у “Арбіце”. Удзельнікі падняліся на трэці паверх гандлёвага цэнтра, раптоўна спыніліся і стаялі так паўхвіліны.

Сцэнары флэшмобаў моладзь прыдумляла на месцы. Пасля “Арбіты” ўдзельнікі пашыхтаваліся ланцужком ды пайшлі ва ўнівермаг. Сталі чаргой у прадуктовай крамцы і пыталіся “Ролтаны” з крэветкамі.

Наступная акцыя планавалася ў краме “Трыо” на плошчы 17 Верасня. Туды таксама пайшлі ланцужком, спяваючы песні. У краме “Трыо” ўдзельнікі флэшмобу пыталіся “Ролтаны” з крэветкамі і марозіва з часнаком, выклікаючы неразуменне ў прадаўцоў.

Потым, пашыхтаваўшыся “паравозікам” і заспяваўшы “Тры чарапахі”, удзельнікі накіраваліся ў фірмовую краму мясакамбіната. Прайшлі ланцужком каля паліцаў і выйшлі на вуліцу.

Акцыю заўважылі супрацоўнікі міліцыі. Міма праехаў міліцэйскі мікрааўтобус і спыніўся побач з рэстаранам. Удзельнікі гэта заўважылі, але не напалохаліся. Ішлі, трымаючыся за рукі і спяваючы песні. Міліцыянты назіралі за акцыяй, але не ўмешваліся.

На прыпынку каля ўнівермага ўдзельнікі “развіталіся”, махаючы рукамі, з аўтобусам №2, павадзілі харавод вакол машыны, пapляскалі ў далоні і разышліся ў добрым настроі.

Напрыканцы арганізатары паабяцалі, што падобныя акцыі будуць праводзіцца ў Глыбокім найдалей. Анонсы будуць публікавацца ў сеціўных суполках глыбоцкай моладзі.

**Аўтарскія словы ў тэксце:**
улётка – *лістоўка;*
шыхт, пашыхтавацца – *строй, пастроіцца.*





■ Юля Шарабайка

# Кніга – лепшы сябар

**У сучасным свеце не пражыць без ведаў. І атрымаць іх можна з розных крыніц. З ранніх гадоў мы ідзём вучыцца ў школу, у гімназію, у ліцэй. Пасля заканчэння школы можна паступіць ва ўніверсітэт.**

Звяртаемся ў цяжкую хвіліну да кніг, якія бяром у бібліятэцы, зазіраем у слоўнікі і энцыклапедыі. З вынаходствам камп'ютара і сеткі Інтэрнэт магчымасці навучання яшчэ больш пашырэлі. Паслугамі гэтых вынаходстваў карыстаюцца зараз вельмі многія.

Кніга ва ўсе часы лічылася лепшым сябрам чалавека. Яшчэ са школы нас вучылі любіць і асцярожна адносіцца да кніг. Проза і паэзія… Класіка і сучаснасць.… У школе мы прачыталі кнігі розных жанраў і вызначыліся, якія нам падабаюцца. У нас з'явіліся любімыя аўтары. Але прагрэс не стаіць на месцы і на змену друкаваным выданням прыйшлі электронныя кнігі. З'явіліся электронныя бібліятэкі. Укараненне электронных падручнікаў – крок прагрэсіўны. У наш час электронныя сродкі навучання выкарыстоўваюць больш 66% школ краіны. Маецца каля 180 найменняў праграмных сродкаў для адукацыйнага працэсу, з іх беларускіх распрацовак – 55, ужываецца больш 3 тысяч мультымедыйных прэзентацый, распрацаваных настаўнікамі-прадметнікамі.

Але ў электронных кніг ёсць як свае плюсы, так і свае мінусы. Электронныя кнігі клапоцяцца пра наша навакольнае асяроддзе, але пагібельна ўздзейнічаюць на здароўе. Здавалася б, лясы засталіся, захаваныя, але наша здароўе: зрок і арганізм у цэлым падвяргаецца ўздзеянню камп'ютара або тэлефона падчас чытання кнігі. Гэта з'яўляецца асноўным мінусам электронных кніг. Плюсам з'яўляецца выгада ў выкарыстанні і кошт (танней), а мінусам – тое, што марнуецца шмат электраэнергіі. Вельмі важным адрозненнем з'яўляецца тое, што электронныя кнігі не трэба перадрукоўваць у сувязі са зносам, але на камп'ютары па неасцярожнасці можна націснуць дэліт. Параўноўваць электронныя і друкаваныя выданні можна бясконца. Хтосьці знойдзе плюсы з аднаго боку, а хтосьці з другога. Я пералічыла самыя асноўныя добрыя якасці і недахопы, якія адразу кідаюцца ў вочы.



Моладзь усё часцей стала карыстацца электроннымі кнігамі. Як распавядаюць хлопцы і дзяўчаты, асноўнае, што іх прыцягвае ў электронных кнігах, гэта выгада пошуку, чытання, раздрукоўкі (адным словам, выгода). Па-другое, сучасныя аўтары цяпер кнігі не друкуюць вялікімі тыражамі, а проста закідваюць у інтэрнэт. Па-трэцяе, навучальную літаратуру ў інтэрнэце можна знайсці любую ўсяго па 1-2 словах, а потым падабраць, што табе канкрэтна патрэбна. Па-чацвёртае, гэта танней.

Самымі папулярнымі жанрамі сярод сучаснай літаратуры, па апытанні, з'яўляецца фантастыка і фэнтазі. Я папрасіла моладзь параіць мне добрых аўтараў. Дзеці назвалі Скот Вестерсфельд, Вольга Галатвіна, Валер Івашчанка, Ганна Гурава, Віталь Зыкаў, Алекс Кош, Сяргей Лук'яненка, Зміцер Емец, Андрэй Реутаў і інш.

А цяпер некалькі парад для тых, хто з электроннымі кнігамі сутыкаецца рэдка. Па-першае, шукаць кнігі вельмі проста. Калі вы ведаеце назву і аўтара, то вы ўводзіце іх у пошукавік, а калі не, але ведаеце жанр, то яго ўводзіце ці проста слова кнігі і выбіраеце спачатку бібліятэку кніг, потым жанр, а потым кнігу, якая вам падабаецца, і пампуеце. Па-другое, кнігі можна чытаць як з камп'ютара, так і з тэлефона, а таксама існуе прыстасаванне, прызначанае адмыслова для чытання электронных кніг – электронная кніга. Па-трэцяе, фарматы ва ўсіх кніг розныя. У вас у камп'ютары пажадана, каб была праграма канвертавання фарматаў. У кожнага тэлефона таксама розныя праграмы для чытання кніг. Па магчымасці трэба паспрабаваць падабраць праграму для чытання самых распаўсюджаных фарматаў кніг. Прыемнага вольнага часу!

**На водку не только уходят деньги, часто последние, водка лишает сил, здоровья, рассудка, убивает волю и чувство чести, отравляет детей, вышвыривает с работы, растлевает душу.**

*Януш Корчак.*

# Алкагольны тэрор

■ Фадзей Шымуковіч,
*педагог-пенсіянер, г. Дзісна.*

## Крыху гісторыі

Вось ужо больш за трыццаць год пад Новы год паказваюць казку вялікага казачніка ўсіх часоў і народаў Эльдара Разанава – “Ирония судьбы, или С лёгким паром”. Казку пра алкаголь – нашым дарослым дзядзькам і цёткам. Сюжэт вельмі просты, працей не прыдумаеш. Чалавек пайшоў з сябрамі ў лазню. Напіўся напярэдадні Новага года да свінскага стану і знайшоў сваё шчасце. Ды яшчэ якое шчасце! Кожны гатоў бы напіцца да чорцікаў, каб знайсці такое.

А давайце ўспомнім, хто там піў. Не які-небудзь забулдыга-алкаш, а ўрач. А хто там так весела п’янствуе? П’янствуюць па сюжэце настаўнікі, людзі адукаваныя, паважаныя. А абаяльная Надзя, артыстка Барбара Брыльска, у самы адказны момант засунула сабе ў рот сігару. А выхадкі п’янага Іпаліта са сцэнай у душавой?

Гэта, канечне, казка. Але казка са страшным працягам. Паглядзелі дзяўчаткі-падлеткі на чароўную Надзю, і прыклад перанялі.

А вось рэальная гісторыя, апісаная прафесарам В.Г.Жданавым, намеснікам старшыні Саюза барацьбы за народную цвярозасць. У Новасібірскім універсітэце, у інтэрнаце, у кафэ за столікам сядзелі чатыры студэнты фізмата, пілі піва і курылі. За суседнім столікам сядзелі чатыры студэнты хімфака. І таксама пілі піва і курылі. У хімікаў закончылася курыва. Падышлі да фізматаўцаў, папрасілі закурыць. Ці не так папрасілі, ці не так адказалі… У выніку бойкі адзін студэнт аказаўся ў моргу, трое – у рэанімацыі. Крымінальная справа. Суд. Адзін сеў на дзяржаўныя харчы на 20 год, трое – на 8 год кожны.

Самае страшнае, што можа зрабіць і ўжо зрабіў алкаголь – гэта знішчыць, змесці з твару зямлі цэлыя народы. Здапамогай алкаголю за 40 год былі знішчаны паўночнаамерыканскія індзейцы.

А ці расійскія купцы не рабавалі народы Поўначы і Сібіры, калі спойвалі іх “вогненнай” вадой, забіраючы за бясцэнак дарагія футры, асуджаючы іх на выміранне з голаду.

У 1942 годзе Гітлер сфармуляваў асновы акупацыйнай палітыкі па захопу ўсходняй тэрыторыі. У сваёй кароткай дырэктыве ён напісаў усяго тры сказы: “неабходна звесці славян да мовы жэстаў. Ніякай гігіены, ніякіх прышчэпак. Толькі водка і табака”. Вось якая сацыяльная праграма для народаў на заваяванай тэрыторыі: ні школ, ні настаўнікаў – толькі водка і табака! Але Гітлер быў вораг і ведаў чаго хацеў. Ён ведаў, што водка і табака выведуць славян праз адно пакаленне без усялякіх крэматорыяў і газавых камер.

## Нашы рэаліі

Чым больш жывеш, тым мацней складваецца ўражанне, што чыясьці магічная рука ажыццяўляе мэту Гітлера. У мінулым годзе міністр аховы здароўя РФ Таццяна Голікава сказала, што з цяперашніх выпускнікоў Расіі да пенсійнага ўзросту дажывуць не больш за 40%. Доктар медыцынскіх навук, прафесар Таццяна Якаўлева, член Камітэта Дзяржлумы па ахове здароўя, прывялі такія страшныя дадзеныя: на Расію прыходзіцца 35% сусветнага ўжывання водкі, прытым, што насельніцтва Расіі складае ледзьве больш за 2%. Кожны пяцідзесяты расіянін хворы на цяжкі алкагалізм. Рэгулярна прыкладваецца да бутэлькі 76% расіян. 80% злачынстваў і палавіна самагубстваў адбываецца на аснове алкагалізму (АіФ №45. 05.04.2008г). Думаю, у нас карціна не намнога лепшая.

Галоўны нарколаг аховы здароўя Аляксей Аляксандраў прыводзіць такія дадзеныя: па РБ кожны год гінуць ад атручэння алкаголем 2500 чалавек. Не зусім так, бо толькі ў нашай Дзісне з насельніцтвам менш за 2000 чалавек у 2010 годзе атруцілася алкаголем чацвёра, з іх двое мужчын ва ўзросце 50 і 39 год.

У Віцебскай вобласці пад назіраннем нарколагаў 32762 чалавек, якія пакутуюць моцнай алкагольнай залежнасцю, з іх 1940 дзяцей, ёсць нават дзеці ва ўзросце 12-13 год. Самае страшнае, што колькасць падлеткаў, якія пакутуюць алкагольнай залежнасцю, расце, а ўзроставая планка апускаецца ўсё ніжэй. Па дадзеных Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі і грамадскага здароўя ў 2008 годзе ў РБ 12,1% вучняў малодшых класаў, 35,4% – сярэдніх класаў і 58,4% старэйшых класаў прызвычаіліся да распіцця спіртных напояў. Галоўны нештатны нарколаг вобласці прыводзіць такія дадзеныя: у ЛТП па вобласці адпраўлена больш за 1500 чалавек, у тым ліку больш за 400 жанчын, па вобласці атруціўся 731 чалавек.

Расце выпуск алкагольных напояў, хоць насельніцтва змяншаецца. З 1995 года да 2008 года ўключна аб’ём лікёраводачных напояў вырас у 1,77 разоў, піва – у 2,01 разы. Хуткімі тэмпамі расце ўжыванне алкаголю на душу насельніцтва. У 2000 годзе ў сярэднім на аднаго жыхара ўжыта 5,8л чыстага спірту, у 2007 г – 11,4л, у 2008г – 12,4л, па неафіцыйных дадзеных– не менш за 15л. У Расіі гэты паказчык паміж 16 і 17л. Па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ўжыванне толькі 8л вядзе да дэградацыі і знікнення нацыі. Зараз наша Беларусь трывала займае дзясятае месца па гэтым паказчыку.

Нельга абысці і тыя страты, якія мы нясём ад алкаголю. У студзені 2009 года ў рэспубліцы было затрачана на набыццё спіртных напояў 351,2 мільярды рублёў, у той час як на адзенне і абутак 244,8 мільярды рублёў. Вось дынаміка росту грошай, затрачаных на набыццё спіртнога па нашым Мёрскім раёне: 2006 год – 8644 млн. рублёў, 2007 год – 10187 млн. руб., 2008г – 13200млн. руб., 2009г – 14300 млн. руб., 2010г – 15200 млн.руб. Неабходна ўлічыць, што доля грошай, затрачаных на спіртное, не апускаецца ніжэй за 30-31% ад усіх сродкаў, затрачаных на набыццё прадуктаў харчавання, г.зн. амаль кожны трэці рубель прадуктовага кошыка прапіта алкашамі.

Але самыя галоўныя страты – чалавечыя жыцці. 82% забойстваў здзяйсняюцца ў стане ап’янення. Па дадзеных Генпракуратуры, за 9 мес. 2009г. у РБ ад атручэння алкаголем загінула 1448 чалавек, з іх 1100 у працаздольным узросце, на падставе ап’янення забіта 339 чалавек, у ДТЗ – 130 чалавек, 95% суіцыдаў. Для параўнання: за 10 год вайны ў Афганістане загінуў 731 беларус. Самае страшнае злачынства супраць чалавецтва – гібель дзяцей пад коламі аўтамабіляў, за рулём якіх п’яныя вадзіцелі. Па словах генерал-маёра міліцыі Аляксандра Найдзенка, па Віцебскай вобласці кожны дзень затрымліваецца 18-25 вадзіцеляў у стане ап’янення, прычым некаторыя за год паўторна.

## Прыдатная глеба алкагольнага тэрору

“Дзяржаўная Праграма нацыянальных дзеянняў па папярэджанні алкагалізму на 2006-2010гг”, як і папярэднія, правалена з трэскам. Не выкананы галоўны пункт – ліквідацыя вытворчасці недабраякасных танных вінаў і замена іх дарагімі якаснымі ўжо ў 2010 годзе. І сёння гэтага “пойла”, якое з’яўляецца ядам для печані, нырак, падстраўнікавай залозы, мозгу і іншых органаў чалавека, на прылаўках магазінаў у дастатковай колькасці.

Калі ў Швецыі адна гандлёвая кропка са спіртным, вынесеная на ўскрай горада, прыходзіцца на 30 тысяч чалавек, то ў нас адна кропка– на 200 чалавек, і размешчана ў самым даступным месцы, якая гандлюе з 8.00 раніцы да 8-10 гадзін вечара. У нашай Дзісне на 2000 жыхароў маецца 7 кропак, дзе можна набыць спіртное, не ўлічваючы тых падпольных, дзе за надбаўку ў кошце можна набыць у любы час сутак.

Калі раней паўлітра “Сталічнай” каштавала 3 руб 12 кап., а кг самай добрай каўбасы 3 руб 20 кап., то зараз паўлітра водкі ў межах 8-10 тысяч рублёў, а кг добрай каўбасы 40-45 тыс. руб. Многія задумаліся, на што больш выгадна для сябе і сям’і патраціць грошы, бо набыццё спіртнога зараз не вельмі адчувальна.





# У конкурсе перамог глыбачанін

**У конкурсе малюнкаў, прысвечаных родным мясцінам Чэслава Мілаша, які праводзіўся сярод вучняў, першае месца заняў глыбачанін Дзяніс Храпавіцкі.**

Сярод пераможцаў конкурса Даша Мацян з Відзаў, якая заняла 2-е месца, адзначаныя таксама работы Паўла Ярушэвіча з Відзаў, Сяргея і Віталя Лейшаў з Грэтунаў, Лены Фядулавай з Чэрнева, Віялеты Падольскай, асобна адзначаны добры ўзровень работ дзяцей са Слабодкі.

Конкурс быў арганізаваны грамадскай арганізацыяй “Polska Maciez Skolna”, якая займаецца падтрымкай польскай адукацыі за межамі Польшчы.

Як вядома, 2011 год аб’яўлены ў Польшчы годам Чэслава Мілаша, польскага паэта і грамадскага дзеяча, нобельскага лаўрэата, стагоддзе якога будзе адзначацца сёлета. Чэслаў Мілаш нарадзіўся 30 чэрвеня 1911 года ў Шэтэйнях, непадалёк ад Вільні. Працаваў на Польскім радыё ў Вільні. У 1937 пераехаў у Варшаву, дзе прабыў усю нямецкую акупацыю. Пасля вайны быў аташэ па культуры ў польскай амбасадзе ў Парыжы. У 1951 адмовіўся вярнуцца ў Польшчу і праз некалькі гадоў выехаў у ЗША. У 1980 годзе стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі. Памёр 6 гадоў таму, у 94-гадовым узросце.

*Зміцер Лупач*

# Нашы сярод лепшых

**У Віцебску 2 красавіка адбыўся абласны этап міжнароднага конкурсу чытачоў польскай паэзіі сярод вучняў.**

Як паведаміла прадстаўнік грамадскай арганізацыі “Polska Macierz Szkolna” Эўлалія Пяткевіч, сярод лаўрэатаў гэтага конкурсу шмат прадстаўнікоў нашага рэгіёна: Вольга Дварэцкая з Іказні, Лена Фядулава з Чэрнева, Ірэна Вансовіч з Браслава, Рэната Мацулевіч са Слабодкі, Дзяніс Храпавіцкі з Глыбокага, Валер Пупкевіч з Пастаў, Даша Сенкевіч з Глыбокага, Віка Лазучэнка з Межэнаў, Сабіна Ляўчук з Браслава.

У склад журы ўваходзілі прадстаўнікі грамадскай арганізацыі “Polska Macierz Szkolna”, польскага консульства ў Беларусі, святары, педагогі. Узначальвала журы кіраўніца PMS з Гродна Тарэса Крышань.

Лепшыя чытачы атрымалі дыпломы, кнігі, салодкія падарункі. Арганізатары конкурсу выказваюць падзяку бацькам, педагогам, самім вучням за добрую падрыхтоўку да гэтага мерапрыемства.

Напрыканцы мерапрыемства адбыўся канцэрт, на якім гучалі польскія песні, была паказаная казка “Папялушка” у польскамоўным варыянце.

*Зміцер Лупач*

# Вясновыя палы травы

■ А.А.Панфілка,
*інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС, капітан унутранай службы.*

**Штогод у вясновы перыяд пасля сходу снежнага полага рэзка ўзрастае колькасць узгаранняў у лясах і на тарфяніштах, пажарамі знішчаюцца будынкі. 15-20 адсоткаў гэтых пажараў узнікае ў выніку вясновых палаў сухой травы і апаўшага лісця, іржышча і пажніўных рэштак на палях.**

Пра дзейсную забарону на падобныя мерапрыемствы ведаюць нешматлікія. Варта сказаць, што ў Кодэксе Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні прадугледжаны шэраг артыкулаў, якія звязаныя з наступам пажаранебяспечнага перыяду, а менавіта:

Артыкул 15.29. **Парушэнне патрабаванняў пажарнай бяспекі ў лясах ці на тарфяніштах:**

**1.** Парушэнне патрабаванняў пажарнай бяспекі ў лясах ці на тарфяніштах або забароны на іх наведванне, якое не пацягнула прычыненне шкоды, - цягне папярэджанне ці накладанне штрафу ў памеры да дваццаці пяці базавых велічынь.

**2.** Парушэнне патрабаванняў пажарнай бяспекі ў лясах ці на тарфяніштах, якое пацягнула знішчэнне ці пашкоджанне лесу або тарфяніштаў, – цягне накладанне штрафу ў памеры ад дваццаці пяці да пяцідзесяці базавых велічынь.

**Артыкул 15.57. Выпальванне сухой расліннасці, травы на кораню, а таксама ржышча і пажніўных рэштак на палях або непрыняцце мер па ліквідацыі палаў:**

Выпальванне сухой расліннасці, травы на кораню, а таксама ржышча і пажніўных рэштак на палях або непрыняцце мер па ліквідацыі палаў на зямельных участках - цягне накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці да сарака базавых велічынь.

**Артыкул 15.58, Распальванне вогнішчаў у забароненых месцах:**

Распальванне вогнішчаў у забароненых месцах - цягне папярэджанне ці накладанне штрафу ў памеры да дванаццаці базавых велічынь.

Памылковае меркаванне пра тое, што вясновыя палы спрыяюць хутчэйшаму абнаўленню расліннасці, штогод прыводзіць да знішчэння велізарных плошчаў тарфяніштаў, лясных масіваў. У Вашых сілах прадухіліць добраахвотнае знішчэнне флоры і фауны нашай краіны. **Не станавіцеся закладнікамі чыйёсьці непісьменнасці, беражыце прыроду!**

# Медыкі заклікаюць больш рацыянальна прымяняць антыбіётыкі

**Тэмай Сусветнага дня здароўя, які адзначаецца 7 красавіка, сёлета стала праблема ўстойлівасці ўзбуджальнікаў захворванняў да супрацьмікробных прэпаратаў (антыбіётыкаў). Пра гэта на прэс-канферэнцыі 4 красавіка ў Мінску паведаміў кіраўнік рэспубліканскага бюро Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ) у Беларусі Ягор Зайцаў.**

Паводле яго слоў, празмернае і нерацыянальнае ўжыванне антыбіётыкаў выклікае рост ліку і з'яўленне тыпаў мікраарганізмаў, устойлівых да гэтых лекаў, што можа стаць прычынай смерці пацыента. Зайцаў адзначыў, што ў краінах ЕС штогод з-за гэтага памірае каля 25 тыс. чалавек. Ён дадаў, што такіх статыстычных даных па Беларусі няма, аднак «можна выказаць меркаванне, што лічба немалая».

Гаворка ідзе пра такія інфекцыі, як туберкулёз са множнай лекавай устойлівасцю, так званы «залацісты стафілакок». Устойлівыя да лекаў формы могуць прымаць таксама ганакокі, менінгакокі, малярыя.

Сярод асноўных прычын з'яўлення ўстойлівых да лекаў інфекцый, Зайцаў назваў прызначэнне антыбіётыкаў не па паказанні, самалячэнне, безрэцэптурны продаж антыбіётыкаў у аптэчнай сетцы. У Сусветны дзень аховы здароўя СААЗ заклікае дзяржавы распрацаваць план нацыянальных дзеянняў па барацьбе з гэтай праблемай, наладзіць маніторынг рэзістэнтнасці (устойлівасці) інфекцый, узмацніць кантроль за ўстойлівасцю інфекцый у арганізацыях аховы здароўя, выкарыстоўваць антыбіётыкі толькі для тэрапіі сельскагаспадарчых жывёл, але не як сродак прафілактыкі і стымулятар росту.

Як паведаміў загадчык аддзела мікрабіялогіі і імуналогіі Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра эпідэміялогіі і мікрабіялогіі Леанід Цітоў, у 1997 годзе пры інстытуце мікрабіялогіі быў створаны рэферэнццэнтр па маніторынгу рэзістэнтнасці. Ён адзначыў, што за апошнія 10 гадоў сітуацыя з прымяненнем антыбіётыкаў у Беларусі «змянілася ў лепшы бок». Паводле слоў Цітова, знізілася прымяненне тых прэпаратаў, якія раней выклікалі высокі ўзровень рэзістэнтнасці.

Ён таксама заўважыў, што неабгрунтаванае спажыванне антыбіётыкаў абумоўлена іх даступнасцю ў гандлёвай сетцы.

Штодаарганізацыйаховы здароўя, то існуюць пратаколы лячэння інфекцыйных захворванняў. Разам з тым, растлумачыў Цітоў, у медыцынскіх установах розных рэгіёнаў узроўні прымянення антыбіётыкаў адрозніваюцца, што звязана з рознымі медыцынскімі школамі.

*Тацяна Дарашчонак, БелаПАН.*

**МНС ІНФАРМУЕ**
(па стану на 4.04.2011 г.)

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 427;
Гібель людзей – 93 з іх 3 дзіцяці;
Урон – 2 089 833 тыс.руб.,
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 21
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 94 086 470 руб.

# Віншаванкі

*Дар'ю Раловіч*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пусть к тебе на День рожденья
Фея милая придёт,
Палочкой своей волшебной
Пусть тихонечко взмахнёт,
Поскорее пусть исполнит
Все заветные мечты,
Чудесами мир наполнит,
Чтоб была счастливой ты!

*Цёця Іра, Дзядзя Дзіма, Жэня і Кацюша.*

**Віншуем**

*Вольгу Васільеўну Парфяновіч!*

Желаем здоровья, любви и тепла,
Чтоб жизнь интересной и долгой была,
Чтоб в доме уют был, любовь да совет,
Чтоб дом защищен был от горя и бед.

Позабудь в этот день о печалях своих,
Засветись ты улыбкой счастливой,
И такой оставайся на долгую жизнь,
Жизнерадостной, мудрой, красивой.

*Калектыў "ВГ"*

# Паломніцтва рыбакоў на "Дамбе" 2011 г.

**Вадаём сяльгаспрадпрыемства "Азярцы", што ў Глыбоцкім раёне, вельмі папулярны сярод аматараў- рыбаловаў. Палачане едуць сюды, як да сябе дамоў, нямала і мінчукоў.**

■ Яўген Самсонаў

Ды і ёсць за чым. Напрыканцы зімовага сезону пачынае кляваць карась. Паўкілёвікі, а бывалі і з кілю.

Улічваючы пагодныя ўмовы і пажаданне рыбаловаў, мясцовае кіраўніцтва прадоўжыла да 10 красавіка рыбалоўны сезон на вадаёме, але за адпаведную плату (5 тыс. руб).

Са слоў арандатара вадаёма за чатыры дні гаспадарка мае прыбытак ад платнага аматарскага рыбалоўства у памеры 5 мільёнаў рублёў.





**На здымках:** 1-2 - Вадаём "Дамба" – удзень 3.04.2011 г.; з таго самага ракурсу – 3-4, але вечарам.





# «НАГЛЯД»

■ С.П. Пятух,
*начальнік крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС*
*Тэл. 2-17-60.*

– спецыяльнае комплекснае мерапрыемства, якое будзе праводзіцца на тэрыторыі Глыбоцкага раёна з 4 па 13 красавіка 2011 года. У яго правядзенні будуць задзейнічаны супрацоўнікі крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС, усе зацікаўленыя службы і падраздзяленні РАУС, а таксама супрацоўнікі РА «Ахова». Адмысловая ўвага пры правядзенні дадзенага мерапрыемства будзе нададзена праверцы па месцы жыхарства і працы асоб, якія стаяць на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС, якія адбываюць пакаранне па прысудах судоў не звязаных з пазбаўленнем волі, а таксама асоб, што вызваліліся з месцаў пазбаўлення волі і якія маюць не знятую і не згашаную асуджанасць, у тым ліку асоб, змешчаных пад прэвентыўным наглядам паводле артыкула 80 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, прэвентыўны нагляд усталёўваецца за асобамі, якія злоўжываюць спіртным і парушаючых грамадскі парадак – для кантролю за іх паводзінамі, для папярэджання здзяйснення злачынстваў з іх боку, а таксама з мэтай прафілактычнага ўздзеяння.

Супрацоўнікі крымінальна-выканаўчай інспекцыі аказваюць дапамогу людзям, якія раней парушылі закон і цяпер знаходзяцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі, ў іх працаўладкаванні, рэгістрацыі на тэрыторыі раёна, атрыманне матэрыяльнай і псіхалагічнай дапамогі з удзелам аддзела па працы, занятасці і сацыяльнай абароне насельніцтва, тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

11 – 17 красавіка 2011 г.













Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 11 красавіка



**06.00**,**07.00**,**08.00**,**09.00**, **12.00** (с сурдопереводом), **13.00**,**14.00**,**15.00**, **16.00**,**17.00**,**18.00**, **19.00**, **23.05** Новости.
**06.05**,**07.10**,**08.15**«Доброеутро,Беларусь!».
**07.05**, **08.10** Зона Х.
**07.30**, **08.25**, **11.50** «Деловая жизнь».
**08.30** В мире моторов.
**09.10 "Маргоша"**.
**10.05** «Я стала жертвой домашнегонасилия».
**11.00 "Затмение"**
**12.10 "Деревенская комедия"**
**14.15** Синематека.
**15.20**, **19.10** Новости региона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05** Nota Bene.
**16.30 "Маршрут милосердия"**
**17.25 "Затмение"**
**18.25** «Окно в Европу».
**18.50**, **01.20** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.50 "Маргоша"**.
**21.00** «Панорама».
**21.45** «Командировка. Журналистское расследование».
**22.00"Обмани меня2"**
**23.15**«Проверкаслухов».
**23.45 «44 минуты»**.
**01.30** День спорта.



**06.00**, **09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10 «Моя жена меня приворожила».**
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Союз».
**11.50** «Любовь по-советски или «У нас секса нет!».
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Контрольная закупка».
**13.45**«Модныйприговор».
**14.50**«Понять.Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**
**17.05 «Слово женщине»**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Белорусский космос. Секретная тема».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Открытый формат».
**22.10** К юбилею первого полета в космос. Премьера. «Открытый космос».3-я и4-я с.
**00.10 «Крем»**
**01.05-01.35** Ночные новости.





**06.35 "Универ"**
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.



**08.05 "Ты моя жизнь"**
**09.00«Тайна «Волчьей пасти»**
**10.50** Пра мастацтва.
**11.20** Школа ремонта.
**12.15**«Ты-то,что ты ешь».
**12.50** Час суда
**13.50 "Сила притяжения"**
**14.45** Мультсериал **"Семейкапиратов"**
**15.10** Конкурс-викторина «Дети нового поколения».Восьмые классы.Перваяигра.
**16.10** Внеклассный час.
**16.30 "Кулинария для детей"**.
**16.35** Новости погоды.
**17.05"Анатомия Грэй5**
**18.00 "Ты моя жизнь"**
**19.05 "Огарёва, 6"**
**20.45** Калыханка.
**21.05** Телебарометр.
**21.10** Белорусское времечко.
**22.15 "Интерны"**
**22.50 "Универ"**
**23.30** Овертайм.
**00.00** Футбол. ЧемпионатАнглии.Премьер-лига. Обзор тура.
**00.55 Анатомия Грэй-5**

СТВ REN TV

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Держи меня крепче».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастика под грифом«Секретно»: «Кома. Рождение сверхчеловека».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Вера Каретникова противгруппы«Yellow Brick Road».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Огонь любви»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35 «ЧИЗКЕЙК»**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Кино»: **«ЯРКАЯ ЗВЕЗДА»**

БЕЛСАТ tv BELSAT

**7:00 Т**ыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30** «Адэса... Адэса!», дак. фільм
**9:05** «Дзеці ў выгнанні. Успаміны»
**10:05** Прэс-экспрэс
**10:20** ПраСвет
**10:45** Эксперт
**11:10** Гісторыя пад знакам Пагоні
**11:20** «Адмысловы цягнік»
**11:45** Моўнік
**12:00** Аб'ектыў
**12:05**«Адэса... Адэса!»
**13:40** «Дзеці ў выгнанні. Успаміны»
**14:35** Прэс-экспрэс
**14:55** ПраСвет
**15:20** Эксперт
**15:45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**15:55** Басанож па свеце
**16:20**«Адмысловыцягнік»
**16:45** Моўнік
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Піпі Доўгаяпанчоха»**
**17:35 «Час гонару»**:24 с
**18:20** Хто ёсць кім?: «Леанід Злотнікаў: Свая парадыгма»
**18:35** Прэс-экспрэс
**18:50** «Вызваленне», дак. фільм, рэж. Вольга Нікалайчык, 2008 г., ч. 2
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Гарачы каментар
**19:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:50** Еўропа сёння
**20:20** «Мужчынская справа ганаровая»
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прыватная калекцыя
**21:55 «Гіцлі»**
**23:25** Аб'ектыў
**23:45** Гарачы каментар

